*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года    № 24(461)    21 ЧЭРВЕНЯ 2000 г.

## Першая камунія ў касцёле Св. Барталамея



Напярэдадні дня дзіцяці ў беларускім касцёле ў Вільні Святога Барталамея вучні беларускай школы імя Фр.Скарыны бралі першую камунію. На працягу года да гэтай урачыстасці іх рыхтавала сястра Наталля. Кожную сераду ў школе яна вучыла іх рэлігіі, у нядзелю разам былі на святой імшы ў касцёле, многія вучні спяваюць у хоры. З гэтага дня ў іх душах Бог, з яго ласкі яны будуць жыць, вучыцца, выбіраць жыццёвыя шляхі. Такое бывае раз у жыцці. Дзевяць вучняў: Ганна Быкава, Каця Варановіч, Наташа Верацэннікава, Таня і Наташа Кавальчукі, Алег Раманчук, Саша Суркоў, Марык і Дарык Сасноўскія ўпершыню ў гісторыі прымалі першую камунію на беларускай мове.

Іх віншавалі ксёндз Ян Шуткевіч, настаўнікі школы, бацькі, сваякі.

*Леакадзія Мілаш, г.Вільня.*

## Наша колькасць зноў павялічылася

На апошнім пасяджэнні Сакратарыята ТБМ 1 чэрвеня была зарэгістраваная Пухавіцкая раённая арганізацыя ТБМ (старшыня рады – Уладзімір Шаўняк – навучэнец Менскага машынабудаўнічага каледжу, які стала жыве ў Мар'інай Горцы), а таксама Нарачская вучнёвая суполка ТБМ з Вілейскага р-на.

Таксама ў ТБМ уступілі вучні 9 і 10 класаў школ " 199, 193, 217 і 97 г. Менска.

20 красавіка 2000 г. пастаўлена на ўлік Ушацкая раённая арганізацыя ТБМ. Віншуем!

Сакратарыят.

**Прайшлі перарэгістрацыю ў мясцовых райвыканкамах Полацкая раённая і Гарадоцкая раённая арганізацыі ТБМ.**

**Віншуем!** **Сакратарыят.**

## Гарадзенская абласная канферэнцыя ТБМ

25 чэрвеня 2000 г. аб 11 гадзіне ў Горадні адбудзецца абласная канферэнцыя Грамадскага аб'яднання "ТБМ імя Ф.Скарыны".

**Пытанні канферэнцыі:**

1.Вынікі рэгістрацыі суполак.

2.Аб рабоце суполак па падпісцы газеты "Наша слова".

3.Выбары дэлегатаў на Усебеларускі з'езд (29.07.2000 г.).

4.Выбары дэлегатаў на III кангрэс дэмакратычных сілаў (2.07.2000 г.).

5.Р о з н а е.

У рабоце канферэнцыі прыме ўдзел старшыня Рэспублікан-скай рады ТБМ імя Ф.Скарыны А.А.Трусаў.

Кіраўнікі суполак атрымаюць кнігі для сваіх сяброў.

Праезд аплочваецца ў абодва бакі.

Тэлефон для даведак: хат. 31-53-78 пасля 18.00.

***Старшыня абласнога грамадскага аб'яднання ТБМ імя Ф.Скарыны А.І. Місцюкевіч.***

## *Падпіска на "Наша Слова" будзе доўжыцца да верасня.*

Паважаныя сябры і прыхільнікі ТБМ! Ад Вас, шаноўнае спадарства залежыць ці будзе існаваць нашая газета далей ці не.

Каб газета існавала нармальна нам трэба 5000 падпісчыкаў, а зараз мы маем каля 2000 . Арыфметыка тут простая. Кожны сябра ТБМ проста абавязаны падпісацца на сваю газету, бо сумма меншая за 1000 рублёў за паўгода падпіскі невялікая і кожнаму па кішэні. Таму мы просім усіх актывістаў ТБМ на працягу не толькі чэрвеня, але і ўсяго лета займацца і яшчэ раз займацца падпіскай. Дарэчы толькі ТБМ гарантуе кожнаму падпісчыку на паўгоддзе бясплатна добрую беларус-кую кніжку. Таму за справу сябры!

*Старшыня ТБМ Алег Трусаў.*

## "Рэлігіязнаўства" па-беларуску

Навукова-метадычным цэнтрам вучэбнай кнігі і сродкаў навучання Міністэрства адукацыі РБ у 2000 г. запланавана выданне вучэбнага дапаможніка "Рэлігіязнаўства" дацэнта кафедры беларускай культуры Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Ф.Скарыны Адзіночанкі В.А.

Аб'ём 13.5 друкаваных аркушаў. Мова выдання – беларуская.

Вучэбны дапаможнік прызначаны для студэнтаў усіх спецыяльнасцяў, дзе вывучаецца рэлігіязнаўства. Таксама можа выкарыстоўвацца настаўнікамі гісторыі сярэдніх школ.

У дапаможніку разглядаюцца пытанні сутнасці рэлігіі і вальнадумства, прычыны іх узнікнення і месца ў культуры. Асноўная ўвага нададзена выкладанню гісторыі розных рэлігійных канфесій. Прыведзены матэрыял па гісторыі рэлігіі і вальнадумства на Беларусі.

Дапаможнік напісаны ў адпаведнасці з зацверджанай Міністэрствам адукацыі Прыкладнай праграмай па рэлігіязнаўству, адным з распрацоўшчыкаў якой з'яўляецца В.Адзіночанка.

Замовы трэба накіроўваць на адрас: аддзел маркетынгу, Навукова-метадычны цэнтр вучэбнай кнігі, вул. Б.Хмяльніцкага, 3, 220013, Менск.

Замова ад арганізацыі павінна быць замацавана подпісамі кіраўніка, галоўнага бухгалтара і пячаткай.

## Заканчваюцца выпускныя экзамены

А ў першы дзень экзаменаў сто дзевяць навучэнцаў дзевятых класаў СШ №2 г. Менска трымалі пісьмовы экзамен на беларускай мове. У гэты дзень разам са сваімі вучнямі хвалявалася і настаўніца беларускай мовы Наталля Аляксандраўна Штанюк. Для яе, былой выпускніцы гэтай школы, быў першы экзамен на трываласць ведаў яе вучняў.

На здымку: настаўніца беларускай мовы Наталля Аляксандраўна Штанюк і яе вучні на экзамене.

Фота Яўгена Казюлі, БелТА.






## Ліда. Сабрана больш 8000 подпісаў за БНУ

20 чэрвеня ў Лідзе закончаны збор подпісаў за Беларускі Нацыянальны Універсітэт. Усяго сабрана 8047 подпісаў. Тарэса Карэйва адна сабрала 1097 подпісаў, за што ўжо ўзнагароджана ад імя Сакратарыяту кнігай "Аняменне". Такога масавага збору подпісаў Ліда яшчэ не бачыла.

### *Ахвяраванні на ТБМ*

1.Хахлоў Станіслаў (Чэрыкаўская гарадская арганізацыя ТБМ) – 500 руб.
2.Шчэрбіч Мікола (Чэрыкаўская гарадская арганізацыя ТБМ) – 500 руб.
3.Дарафееў Усевалад (Чэрыкаўская гарадская арганізацыя ТБМ) – 500 руб.
4.Салдаценка Ігар (Чэрыкаўская гарадская арганізацыя ТБМ) – 500 руб.
5.Кажан Віталь, ЗША – 100 $
6.Станкевіч Вячка – 4 $

Дзейнасць Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны па наданні роднай мове рэальнага статуса дзяржаўнай вымагае вялікіх выдаткаў. Падтрымаць ТБМ - справа гонару кожнага грамадзяніна краіны.

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: вул. Румянцава 13, г.Менск, 220005, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ № 3015212330014 у Менскай гардырэкцыі ААТ Белбізнесбанка код 764 праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).

**Алесь Петрашкевіч**

# ПРАГНОЗ НА ПАСЛЯЗАЎТРА

**(Фарс у дзвюх дзеях)**

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

***Сапежанка.*** Слова даецца абаронцу падсуднага, адвакату Касцюшку.

***Касцюшка.*** Паважаная старшыня суда! Шаноўныя спадары і спадарыні прысяжныя засядацелі! Ды будзе мне дазволена з гэтай трыбуны выказаць глыбокі чалавечы смутак і спачуванне баявым сябрам і паплечнікам Авангарда Батыевича. Я выказаў бы спачуванні родным і блізкім нябожчыка, адная у сваёй старасці ён аказаўся зусім адзінокім... Я спадзяюся, што не абражу нічыіх пачуццяў тым, што, абапіраючыся на абставіны смерці, абараняючы Кастуся Каліноўскага, бо менавіта гэтыя абставіны глыбока пераконваюць мяне ў тым, што ён не забіваў Иванова-Чингизханова, і тым больш наўмысна, і тым больш у палітычных мэтах "на почве мести общественному деятелю", як сцвярджае дзяржаўны абвінаваўца.

***Суворов (крычыць).*** Фарисей!

*Сапежанка звоніць у званочак.*

***Касцюшка.*** З фарысейства і пачнем... Усе, хто ведае пракурора Муравьёва, напэўна і чакалі ад яго прамовы яраснай і наступальнай. І ў гэтым няма нічога дзіўнага ці нечаканага. Ёсць такое права ў дзяржаўнага абвінаваўцы. Мяне насцярожыла і нават збянтэжыла іншае. Навошта раптам пракурору спатрэбілася для заключнай часткі сваёй прамовы, а ён чытаў яе з паперкі, красці не толькі грозныя словы, не толькі паасобныя сказы, а цалкам усю ўступную частку прамовы пана Джэксана – галоўнага абвінаваўцы ад ЗША на Нюрнбергскім працэсе над ваеннымі злачынцамі. Таварыш пракурор так захапіўся крадзяжом чужога, што нават не стаў у ім нічога правіць, каб зрабіць сваім.

***Муравьёв.*** Я попросил бы подбирать выражения!

*Сапежанка звоніць у званочак.*

***Касцюшка.*** Толькі множны лік ваенных злачынцаў замяніў адзіночным лікам майго падабароннага. Менавіта з гэтай прычыны перад намі замест ахвяры савецкай партыйна-палітычнай прадузятасці і бяззаконня з'явіўся радыкальны, махровы цемрашал-нацыяналіст, нацыянал-фашыст і нават "символ расовой ненависти, террора и насилия". Сімвал "интриг и провокаций, которые могут подвергнуть наше общество в кровавый кошмар". Канец цытаты па пану Джэксану.

Абвінаваўца па-майстэрску выкарыстаў запазычанае ў пана Джэксана і вельмі лоўка спрацыраваў і ўвязаў філасофію і ідэі нямецкіх нацыянал-сацыялістаў з ідэяй нацыянальнага адраджэння нашай краіны. Пры гэтым так сам перапалохаўся ўяўнага нацызму, што ад імя ўсёй сусветнай цывілізацыі запатрабаваў смяротнай кары для майго падабароннага.

Я пытаюся ў сябе і ў вас, шаноўныя суддзі: што гэта?! Бездапаможнасць абвінаваўцы перад сілай фактаў?! Правакацыя супраць дэмакратычнага руху на Беларусі і патугі надаць фактычна справакаванаму працэсу палітычны характар?! Ці, можа, прэтэнзія на першынства ў адкрыцці чарговага паляўнічага сезону на "адстрэл ведзьмаў" і пачатак масавых рэпрэсій супраць таго жывога, што яшчэ засталося, ацалела на нашай зямлі?!

Я не думаю, што гэта звычайны непрафісіяналізм служкі пані Феміды.

***Муравьёв.*** Я – прокурор, а не "служка ў пані"!

***Сапежанка.*** Спа-кой-на!

***Касцюшка.*** Скажу шчыра, абвінаваўчая прамова "товарища Муравьёва" нагадала мне знакамітыя "обвинительные речи товарища Вышинского" і іншых карыфеяў савецкай юрыдычнай тэорыі і практыкі першай паловы XX стагоддзя, вынікамі якой былі рэкі крыві мільёнаў нявінных людзей.

***Мурвьёв (вельмі рашуча).*** Я протестую!.. Я протестую и требую поставить адвоката в рамки закона!..

***Сапежанка.*** Пважаны абвінаваўца, калі Вы выступалі і не горш за адвавата, я Вас не перапыняла. Вас жа, паважаны абаронца, папрашу не адхіляцца ад асноўнага аб'екта абарончай прамовы.

***Касцюшка.*** Якраз да яго мы і звернемся... Я перакананы, што апраўданню Кастуся Каліноўскага, як ні дзіўна гэта можа паказацца, у значнай меры паспрые эмацыянальная, энергічная і ў вышэйшай ступені бескампрамісная і надта ж не карэктная прамова абвінаваўцы. Дзіўна, але пракурор нават не імкнуўся выкрыць канкрэтнае злачынства і злачынцу, аналізуючы матэрыялы справы, супастаўляючы доказы сведкаў, эксперта, урэшце, самога падсуднага. Ён, як і ўсе заўважылі, у асноўным лаяўся і кляйміў майго падабароннага. Вядома, гэта рабіць не складана, але ж гэтага не дастаткова для вынясення не толькі смяротнага, але і ўсякага іншага прысуду.

Некалі вядомы адвакат Коні казаў: "Пройтись за счёт подсудимого, без сомнения, иногда бывает соблазнительно, особенно в тех случаях, когда обвинитель глубоко убеждён в его виновности и возмущён его поведением... Но этому соблазну не следует поддаваться". А ў нашым выпадку наогул нейкі парадокс. У мяне такое ўражане, што пракурор зусім не перакананы ў вінаватасці падсуднага. З нейчага благаславення ён імкнуўся надаць працэсу палітычны характар і з гэтае прычыны забыўся на ўсё іншае.

Даруйце, спадар Муравьёв, але такая заангажаванасць пракурора...

***Муравьёв (ускоквае з-за стала).*** Я протестую! Я возмущён и оскорблен такими заявлениями адвоката! И требую извинений!..

***Касцюшка.*** Калі паважаны абвінаваўца так хваравіта ўспрыняў мае словы, я прыношу яму свае прабачэнні. Але ж факты...

***Сапежанка.*** Калі паважаны абаронца не пяройдзе да аналізу тых самых фактаў, пра якія так правільна гаворыць, яго прамова нічым не будзе адрозніваць ад прамовы паважанага дзяржаўнага абвінаваўцы, якой бы якасці апошняя ні была.

***Касцюшка.*** У такім разе звернемся да фактаў, якія абвінаваўца не даказаў, абышоў ці замоўчаў. Не даказаў: ці ўдзельнічаў мой падабаронны ў сутычцы "чырвона-зялёных" з "бел-чырвона-белымі", ці быў знаёмы з пацярпелым; ці меў намер забіваць яго, як грамадскага дзеяча. Не высветліў: чаму падсудны не збег з месца злачынства, а выклікаў хуткую дапамогу; чаму сведкі Халуевіч і Козолупова далі такія процілеглыя паказанні; чаму не быў праведзены следчы эксперымент; куды дзелася ручка ад куфля; чаму так паспешліва крэміравалі пацярпелага. Пракурор абышоў, замоўчаў заяву падсуднага аб тым, што яго збівалі ў камеры папярэдняга зняволення, аб чым ён падаваў скаргу на імя таго ж пракурора! У пракурора нават не выклікаў цікавасці той факт, што следчы не апісаў месца здарэння, на якім мог быць камень, цагліна, і да гэтага часу ёсць прыступкі ў бар, аб якія пацярпелы мог ударыцца пры падзенні. Піўная стойка і зараз размешчана каля гэтых прыступак.

І апошняе... Чаму пры ўсім пры гэтым дзяржаўны абвінаваўца не адмовіўся ад абвінавачвання, калі яго штучная схема развалілася, калі сфабрыкаваная справа рассыпалася? Чаму ён так пасіўна вёў сябе ў час допыту сведак? Можа па той прычыне, што не хацеў пачуць ад іх тое, што яны маглі сказаць на карысць падсуднага.

А што, як сведка Козалупова сапраўды сумленная, дзелавая і разважлівая жанчына, якая ўсё правільна і ўзважыла, чым могуць скончыцца яе несумленныя паводзіны ў судзе? І чаму пракурор так упэўнены ў тым, што прадстаўнік пацярпелага Суворов не даваў хабар Козалуповой, не купляў яе загадзя ілжывыя паказанні? А калі няўпэўнены, то дзе тыя юрыдычныя захады, якія б знялі падазрэнні?

Пытанні! Пытанні! Пытанні! Да таго ж невысветленыя. І яны, як мне здаецца, даюць падставы суду пераканацца ў тым, што некаму патрэбен быў "забойца" ветэрана ды яшчэ пры выкананні грамадскіх абавязкаў. Ахвярай палітычных інтрыг і злачынных паводзін пракурорска-следчай службы і стаў мой падабаронны, віна якога не была даказана, што дае падставу суду прысяжных вынесці вердыкт аб яго поўнай невінаватасці.

Я скончыў, паважаныя суддзі і прысяжныя засядацелі.

***Сапежанка.*** Сядайце... Дзяржаўны абвінаваўца мае права на рэпліку...

***Муравьёв.*** Было бы унизительным вступать в полемику после столь безответственного выступления адвоката!

***Сапежанка.*** Падсудны, устаньце. Суд прадстаўляе вам права на апошняе слова.

*Каліноўскі ўстае і доўга маўчыць.*

Вы мяне не зразумелі, падсудны?

***Каліноўскі (ціха навет прыгнечана).*** Не забіваў я таго няшчаснага старога. Няма на мне граху за яго, не будзе і пакаяння ні перад судом, ні нават перад Госпадам Богам. *(Узвышае голас.)* У іншым я каюся. І асуджэння заслугоўваю, як і ўвесь мой няшчасны народ – за шматвяковую быдлячую цярплівасць, абыякавасць да свайго лёсу, сваёй зямлі, сваёй гісторыі, сваёй мовы і культуры; за ніпраціўленне таму гвалту, што чыняць на нашай зямлі спрадвеку і да сённяшняга нахабнікі, набежнікі, чужыя і свае прайдзісветы, авантурысты, зладзюгі і тыя браты нашы, якім косткаю ў горле наша воля, чалавечая годнасць і нацыянальны грамадскі гонар.

Пасядзеўшы ў турме і ў гэтай клетцы, пабачыўшы ваш "шамякін суд", мяркую, што вынесеце вы мне смяротны прысуд ні за што, ні пра што. А інакш, хто б вас тут трымаў і ўтрымліваў. Добра, калі там, у няволі, застрэляць хутка і адразу. Горш, калі згнояць у турме ці замардуюць на катарзе, як згнаілі і замардавалі мільёны з майго народа.

Ці пашкадую перад смерцю сябе і свой народзец?.. Наўрад ці... І шкадаваць і ратаваць сябе і яго трэба было намнога раней. Вы кажаце, што мне 27?! А што зрабіў я ў свае 27?! Гадамі хадзіў на мітынгі і вагаўся, як той на кучы, - вырашаў, да каго далучыцца. А народзец тым часам краў, піў, марнеў, дзічэў і пакрысе выміраў, асабліва пасля Чарнобыля, - без веры, без надзеі, без маралі, без гістарычнай памяці і нацыянальнай свядомасці.

Не, не пашкадую, бо няма за што.

Ці пашкадую дзяржаву, якая не плоціць сваім грамадзянам за работу, якая кінула сваіх старых на волю лёсу, а маладымі запрудзіла турмы; якая ўблытваецца ў ваенныя саюзы, каб гаціць чужую прорву вайны сваімі сынамі. А хіба варта жалю грамадства, што як старая шлюха прадаецца ў няволю, адракаючыся пры гэтым і ад сваіх багоў, і ад сваіх сімвалаў; Грамадства, у якім незапатрабавальныі застаюцца таленты, розум і майстэрства; у якім забараняецца свабода слова, утоптваецца ў гразь незалежнасць і канстытуцыя, што яе дэкларавала.

Не пашкадую, бо не заслугоўвае ні жалю, ні павагі.

***Муравьёв (да Сапежанкі).*** Может быть, вы попросили бы подсудимого позаботиться о себе, а не о державе и "грамадстве".

***Каліноўскі.*** Што ж вы мяне перапыняеце, калі самі арганізавалі гэты працэс менавіта для таго, каб пачуць ад мяне, на чым стаяць і чаго хочуць такія ненавісныя вам дэмакраты. *(Паўза).*

***Сапежанка.*** Прадаўжайце падсудны.

***Каліноўскі.*** Як ні горка казаць, але і з маёю жаласцю і без яе знікае з твару зямлі і такі народ, і такая дзяржава, у якой прыватызуецца не цырульня і пральня, а палітычная і эканамічная ўлада; у якой нацыянальна свядомыя людзі з'яўляюцца нацыянальнай меншасцю; у якой амаль немагчыма знайсці садок ці клас, у якім бы выхоўвалі і навучалі на нацыянальнай, дарэчы, дзяржаўнай мове; дзяржава, у якой слова "патрыёт" атаясамліваецца са словам "нацыяналіст", а слова "нацыяналіст" з'яўляецца лаянкай і палітычным ярлыком; у якой пракурор, не даказаўшы злачынства, патрабуе смяротнай кары сваёй ахвяры і лепіць да яе цытаты, украдзеныя з абвінаваўчай прамовы на Нюрнбергскім працэсе!

Скажыце, дзе яшчэ такое можна пабачыць?! Толькі ў нашым запаведніку, у нашай Вандэі, толькі ў той дзяржаве, дзе "кухаркамі" кіруюць такія ж "кухары" па ўзроўню свядомасці. Дзе яшчэ прыблуда з свету можа запатрабаваць ад карэннага жыхара: "говорите на человеческом языке?!" Дзе яшчэ абруселыя абарыгены адхрышчваюцца ад сваёй гісторыі і забараняюць "националистические" падручнікі і вяртаюцца да старых савецкіх інтэрнацыяналызаў?! Назавіце мне народ, які бы не ведаў сваіх каранёў і танцаваў на магілках сваіх продкаў?! І на што можа спадзявацца народ не аб'яднаны агульнай гістарычнай памяццю, агульнай мовай і нацыянальнай свядомасцю, народ, які не ўцяміў сваіх геапалітычных інтарэсаў.

Толькі ў нас і нідзе болей сіроцтва пастаўлена на паток! Толькі ў нас і нідзе яшчэ меней нараджаецца, чым памірае! Толькі ў нас з благаславення ўлады п'янства стала стыхійным бедствам, а самагубствы звычайнай з'явай! Толькі нашы абалваненыя і зазамбіраваныя афіцыйнай дэмагогіяй людзі гатовы ісці за любым прайдзісветам, які паабяцае простае выйсце са складанага становішча.

І апошняе. Народ, які не запатрабаваў да гэтага часу свайго Майсея, які дапамог бы яму знішчыць раба ў сабе, будзе мадзець так, як і належыць мадзець рабам. Адзіная ўцеха, што сёння ўжо многія мае суайчыннікі з годнасцю і гонарам могуць заявіць і заяўляюць: рабы не мы, мы не рабы! Мы не калоніі!

Я скончыў, "господа-товарищи" прысяжныя засядацелі. Выносце свой справядлівы вердыкт не сумняшася. Ад гэтай мінуты і да смерці я не ваш! *(Садзіцца).*

*(Працяг у наступным нумары)*

